# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

МЕСЯЧНІК БЕЛАРУСКАГА
СТУДЭНСТВА У ВІЛЬНІ.

№ 1 (2). СТУДЗЕНЬ. ГОД II.

1925 г.

ВІЛЬНЯ.
Друкарня Н. Левін і Сын, Нямецкая вул. 22.
1925.

# ЗЬМЕСТ.



---

# СТУДЭНСКАЯ ДУМКА

Грамадзка-навуковы і літэратурны месячнік Беларускага студэнства.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская вул. 12, 6.

Падпіска квартальна з перасылкай . 3 зл.
Цана асобнага нумару . . . . . . . 1 зл.

№ 1 | 1925, СТУДЗЕНЬ | ГОД II.



## Беларускі сьцяг.

Узьняўся сьмела, вольна ў неба
Крывава-беласьнежны сьцяг—
Ён сіл жывых народу сьведка,
Яго цяжкое долі шлях!

Ідзіце ўсе пад сьцяг прыгожы,
Каму свой родны дораг кут!
І барані, Вялікі Божа,
Сыноў сваіх, жывучых тут!

Пад сьцягам гэтым нам ня страшна
Напасьць варожа, што п‘е кроў...
Дасьць Бог—народ наш Беларускі
Шчасьліўшы будзе ад дзядоў!

**Пётра Сакол.**

# Наша думка.

Душа народу, яго погляды, перакананьні, яго мудрасьць,—вабліча ягонае,—як ведама, заўсёды найбольш ярка і поўна выліваецца ў яго запраўдных творах, г. зн. песьнях, казках, легэндах, байках, прыказках і г. п.

З іх запраўды можна судзіць аб народным духовым багацьці,— багацьці, якое ўсе народы у свой час гэтак старанна зьбіраюць і распрацоўваюць.

Мы, Беларусы, апынуліся ў тых варунках, калі ня было магчыма праводзіць сыстэматычна гэнага зьбіраньня. Што праўда, былі робляны пэўныя спробы расейскіх вучоных у гэным напрамку.

У часе адступленьня расейскага войска ўвайну большая частка жыхароў Заходняе Беларусі выехала ў Расею. У Расеі беларуская моладзь у значнай меры падпала ўплыву Расейцаў і ў пэўнай ступені здэнацыяналізавалася. Старшае пакаленьне — насільнікі народных твораў — у большай частцы не перанесла катастрофы і голаду і памерла ў Расеі, ня перадаўшы, дзякуючы гэтакім варункам, народнага скарбу моладзі. І дзеля гэтага значная частка народных твораў згінула безпаваротна.

Цяпер-жа варункі ані палітычныя ані эканамічныя не пазваляюць вясьці сыстэматычную працу ў гэтым напрамку.

А зьбіраньне гэтае трэба рабіць неадкладна тым больш, што нашая вясковая моладзь у значнай ступені здэнацыяналізованая ня ўсё пераймае ад дзядоў і бабкаў і апошнія нясуць скарб народны ў магілу.

Дык, каб ратаваць палажэньне, мы падаем думку, каб кожны інтэлігэнт, седзячы ў вёсцы (а варункі палітычныя так спрыяюць што, лічыць, уся інтэлігэнцыя беларуская цяпер у весцы), пастараўся, каб гэты час ня прапаў дарма для беларускае культуры і навукі.

Каб кожны інтэлігэнт заняўся зьбіраньнем народных твораў і слаў у нашую часопісь (пажадана з камэнтарыямі).

Дык хай кожны інтэлігэнт—беларус на шпальтах нашае часопісі споўніць свой грамадзкі і нацыянальны абавязак, бо „чаго сягоньня вы ня возьмеце, таго і заўтра вам ня ўзяць!“

# Нацыянальная сьвядомасьць.

Многія пытаньні, што здаваліся ўжо канчальна разьвязанымі і непатрабуючымі ніякіх дадаткаў і зьменаў, у наш час нятолькі прымусілі зьвярнуць на іх сур'ёзную ўвагу грамадзянства, выясьніць да іх свае адносіны, але можна сказаць, сталіся вугольным камянём. Гэткае пытаньне—пытаньне нацыянальнае.

Гэта зусім зразумела. Наш час, час навальніцаў і розных палітычных камбінацыяў. Мамэнт праверкі і тых поглядаў і пераканальняў, якімі жылі нятолькі нашыя дзяды й бацькі, але і яшчэ цэлыя да іх пакаленьні. Крытычныя адносіны да выраблёных нашымі прадзедамі ідэяў і гаспадарсьцьвеных асноўных пытаньняў, каторымі яны жылі і разьвіваліся, ставяць перад намі пытаньне аб вытварэньні асабістага сьветазору і правядзеньні сваіх поглядаў у жыцьцё.

Мамэнт, перажываны намі цяжкі і ня кожнаму пакаленьню выпадае на долю, дык дзеля гэтага й ад нас вымагаецца ня толькі натуга, але і адказнасьць за свае паступкі.

Пытаньне нацыянальнае цесна лучыцца з пытаньнем патрыятызму, любасьці да свае Бацькаўшчыны і свайго народу. Кажучы аб нацыяналізьме, я не хачу сказаць, каб ён быў пастаўлены ў вельмі вузкія рамкі. Проста скажу, крый нас, Божа, ад гэткага нацыяналізму, які цяперака ў Польшчы. Гэткі шавінізм да дабра не даводзіць і выклікае катастрофу. Ад гэтага не ўратуюць ні розныя хітрыя канстытуцыі, як бы іх лібэральна і дэмакратычна не напісалі, ні соймы. Усё чужое нацыянальнаму духу і культуры само адваліцца, і тым барджджэй гэта станецца, чым балей будзе выказана розных рэпрэсыяў, шовіністычных тэндэнцыяў і імкненьняў—усё апалячыць і як можна балей захапіць у свае рукі, пасыцець і расшырыцца на кошт Полацка й Кіева. Ведама, лятуцець нікому не забараняецца. Але якая з гэтага карысьць? Якая рэальнасьць лятуценьняў, даводзіць не патрэбна.

Факт-жа колёнізацыі астаецца і паўнюсенька паказуе на імкненьні ганаровых паноў. „Лятуценьні, лятуценьні, дзе вашая саладзіня?“ Ці не ляпей загадзя скараціць рукі і зьменшыць сваю прагавітасьць. Паглядзем, паважаныя панове, як вам удасца за 50 год апалячыць Беларусь і выгнаць з яе нацыянальную ідэю. Праўда цяпер у нас сілы вельмі няроўныя. За тое мы дужыя духам і вераю ў справядлівасьць свае справы. Што родзіцца ў навальніцу і пяройдзе цераз горан бедаў і мора мукаў, астаецца цьвёрдым і ўпорным. Ніякія нягоды гэткаму народу ў будучыні ня страшныя, бо ён мае цьвсрды фундамэнт пад сабою. У падобным палажэньні выробляюцца цьвёрдыя характары, гартуецца воля байцоў і будучыня за намі, бо з намі народ. „Добра сьмяецца той, хто сьмяецца апошні“. Гэтак кажа лацінская прыказь.

Але як-бы там нібыло, мы відзім, што розныя палітычныя пераварoты, толькі дужэй прымушаюць нацыянальнае пачуцьцё выказаць сваю волю і любасьць да Бацькаўшчыны, паміма волі скіровуюць думку да мінуўшчыні і да ўзнаўленьня мінулае самабытнасьці.

Разам з гэтым праяўляецца сьвядомасьць народу і палітычны рост краю.

Апошняя абставіна разам з разьвіцьцём грамадзянства значна памагае зьмене поглядаў. Гэтая зьмена ёсьць неабходнае і гістарычнае зьявішча, з якой мусяць вельмі і вельмі лічыцца. Чым балей жыцьця і мацней б'ецца думка ў грамадзянстве, тым паўнейшая і размавіцейшая яго дзеяльнасьць.

Пры гэтым трэба памятаць, што толькі свабода й незалежнасьць нацыі дае ёй магчымасьць поўнага і борздага разьвіцьця ўсіх духоўных сілаў народу. Толькі сын свабоднае бацькаўшчыны здольны на творства і геройства, тымчасам як сын нявольніка паводле свайго душэўнага складу на гэта ня мае сілы, ягоная псыхіка пабітая. Ён маральна і разумова прыбіты, ціск няволі атрафіруе яго здольнасьці, дзеля гэтага ён ужо ня здатным сачыць за борздым лётам думкі і сам ня можа радзіць жывое слова. Толькі свабода палітычная, а з ёю разам асвабаджэньне ад цяжкага эканамічнага ярма і прызнаньне асобы чалавека даюць тое жывячае сьвятло, пад уплывам якога ўсе сілы народу пачынаюць разьвівацца.

У справе разьвіцьця нацыянальных імкненьняў і заданьняў народу, зможа і павінна з'іграць вялікую ролю літэратура й публіцыстыка. Гэта ёсьць простае заданьне служыць жыцьцю й грамадзкаму разьвіцьцю. Калі друкаванае слова падасьць свой голас аб усім, што дзеяцца важнага ў грамадзкім жыцьці, калі яно глядзіць на зьявы жыцьця свабодна, калі нічым ня сьціскаецца ў дасьледзінах прычынаў быцьця факту, тады і само грамадзянства прачынаецца ад соннасьці і закасьцянеласьці дзеля дзеяльнейшага жыцьця і бязудзержна імкнецца да правядзеньня ў жыцьцё сваіх асноўных заданьняў, якімі могуць быць толькі пытаньні нацыі, яе быцьця й далейшага разьвіцьця.

У гэткіх прыпадках думку, каторая прачнулася, цяжка чым-небудзь устрымаць або запыніць. Да часу свайго нацыянальнага адраджэньня людзі бываюць быццам у сьне, дык дзеля таго й думка нічога не дае сьніць. Думка здушаная, прыцісьненая і баязьлівая і нерашучая, паміма волі яна скрыўляецца ў адзін бок і робіцца няправільнаю.

Доляю гісторыі мы ўведзены ў духоўнае жыцьцё Эўропы і сталіся учасьнікамі яе духоўнае дзельнасьці і яе імкненьняў, а тымчасам ці шмат іменьняў нашых у навуццы ведама эўропэйскаму сьвету? У нас ледзь стане на нашыя хатнія патрэбы навучоных.

Чужая школа адлучыла нас ад народнае гушчы. Народ астаўся пры сваіх старых ідэалах, пры бедным і грубым жыцьці. Нашая праца павінна быць ськіравана да таго, каб круг асьвечаны людзёў рабіўся шырэйшы й шырэйшы, каб балей і балей выходзіла людзёў з гушчы народу й прылучалася да асьвечанага кругу.

Асьвета масы народу, падымак яе да асьветы агульна-людзкое, зьліцьцё з асьвечаным кругам ёсьць глыбака нацыянальнаю справаю і прыгатуе шырокае поле працы, каторае ўжо ня будзе круціцца ў цесным крузе выбраных. Толькі гэткая дарога ёсьць разумнаю, і ўся будучая гісторыя нашага краю павіннаісьці па дарозе цывілізацыі й прогрэсу. Як толькі той ці іншы край зьбіваецца з гэтае дарогі, яго гісторыя задзержваецца. Можна спадзявацца, што й мы з часам будзем вітаць свой народ разьвіты цывілізацыяй. Але дагэнуль яшчэ трэба прайсьці даўгую дарогу разьвіцьця, адаліць з яе мноства розных перашкодаў. Тут прыдзецца выдзержаць барацьбу з абскурантызмам,

цямпотаю ў грамадзянстве. Нашаму нацыянальнаму разьвіцьцю няма іншае задачы, як зьбліжэньне з Эўропаю, пераняцьце і ўсабечаньне ад яе, як спосабаў навукі, так і пануючых ідэяў у эўропэйскім грамадзянсьцьве, выкліканых яго рухам. Гэта ня пустая імітацыя. Яно мае разумныя асновы і па ўсабечаньні настае распрацаваньне і рашшырэньне перанятага ў сваім собскім сярадовішчы, самастойнае прытарнаваньне да нашага народнага жыцьця й яго сьветазору.

Алекса—Полацак.

# Зразумець—дараваць.

Тое, што з пункту гледжаньня фармальнага права называецца праступкам, карызаслугоўваючым чынам,—тое-ж з пункту гледжаньня псыхалягічнага, маральнага і гуманнага можа быць далёка не карыгодным паступкам.

А гэта таму, што фармальнае права ужываецца дужэйшымі, як аружжа, каб эксплёатаваць слабейшага, падпарадкаваць яго сабе і паняволіць.

Бо-ж, сапраўды, ці-ж можна караць „злодзея“, які, маючы ў хаце хворую жонку і ня маючы магчымасьці зарабіць куска чорнага хлеба для дзяцей, ідзе ўначы да суседа „украсьць“, каб пакарміць дзяцей і хворую жонку?

Калі мы будзем разглядаць гэты паступак з псыхалягічнага і гуманнага боку, калі мы запытаем сябе, што-б мы зрабілі, будучы у гэткім становішчы, дык бязумоўна станем на старане гэтаго „злодзея“ і даруем яму.

Зробім большае, — пачынім крокі, каб паставіць яго ў гэтакія варункі, пры якіх яму ня трэба было-б ісьці „красьць“.

Гэтак сама, калі пазнаёмімся з таею прычынаю, якая папхнула чалавека на даны паступак, — даруем мы нават і тады, калі-б чалавек у бязвыхадным палажэньні з нуды і крыўды вышаў, як кажуць, „на вялікую дарогу“.

Нязлічаную колькасьць падобных фактаў даецца заўважыць у сучасным жыцьці нашага гаротнага, сярмяжнага Беларуса ў Заходняй Беларусі.

Чалавек, змучаны вайною і голадам вярнуўся на Бацькаўшчыну. Места не пазнаў, дзе стаяла яго хата, а поле лесам зарасло. Вярнуўся ён з хвораю жонкаю і горбаю дробных дзяцей. Палажэньне бяз выхаду. Зьвярнуўся ён да ўраду з просьбаю аб помачы — там адказ; зьвярнуўся да суседа пана абшарніка,—той з пагардаю прагнаў. Зьвярнуўся ён, наканец, да жыда — гандляра, — той абяцаў помач, аля, аля пад варункам, каб за год аддаць яму 300%.

Пацямнела у сялянiна ў вачох і рашыў ён сам сабе памагаць у нядолі. Выкапаў зямлянку, выкарчаваў кавалак поля, пасадзіў рыдлёўкаю бульбы і чакае паляпшэньня.

Аля ня тут-то было! У гэтым-жа годзе трэба было заплаціць падатку за поля, заросшае лесам, болей, чым сабраў бульбы; за вакно, што зрабіў у зямлянцы, таксама трэба плаціць—аля чым?

Аб малаку для дзяцей і думаць няма што, бо, каб і купіў кароўку, дык падатку за карову трэба было б заплаціць болей, чымся каштуе карова. Палажэньне з кожным днём горшае, дарагоўля расьце, падаткі не пад сілу, заробку няма... А кругом яго пануюць дыбалююць—коштам яго.

І вось у гэтакіх варунках знаходзіцца чалавек, калі ён пусьціцца на тое, што ў нас так папулярна завецца „бандытызмам“.

Ці судзьдзі, калі яго злавіўшы судзяць, хочуць зразумець і разабрацца ў тых прычынных варунках яго жыцьця, якія папхнулі яго на падобны пастунак? — Вядома—не, бо яны хочуць глядзець на гэта толька з боку фармальнага права!

Калі-б жа яны розглядалі гэта з боку псыхалягічнага, маральнага і гуманнага, дык ня так часта стасавалі-б... расстрэлы, а хучэй павінны былі-б дараваць.

Дык гэта так, калі прычыны да якогасьці пастунку матэрыяльныя, а што-ж тады сказаць, калі прычынаю зьяўляецца ідэя—парываньне да лепшага будучага свайго і свайго народу?

Калі людзі рвуцца да нацыянальнага вызваленьня, да лепшае долі свайго народу, дык тады, калі-б нават пры гэтым ужылі яны і жорсткіх спосабаў,—тады, разумеючы прычыну, павінны ім дараваць!

Дзеля прыкладу — Беластокі працэс. Калі-б судзьдзі палякі ня глядзелі на гэта з боку фармальнага права, а калі-б узялі пад увагу тое, што тутака справа зьвязана з ідэяю, што гэтая ідэя ўласьціва кожнаму народу, што гэтакія самыя выпадкі былі ў жыцьці і польскага народу, дык тады пры добрай волі павінны былі-б дараваць Беларусам—Паўстанцам.

Быць можа, што Беларусы ў здабываньні сваіх людзкіх і нацыянальных правоў ужывуць і жорсткіх спосабаў, быць можа пойдуць шляхам, які з пункту гледжаньня фармальнага права зьяўляецца праступкам, аля, аднак, калі людзі будуць разглядаць гэта з боку псыхалягічнага, з боку ідэі, дык павінны былі б, зразумеўшы гэта,— „вінавайцам“ дараваць!

**М. М.**

# Аб аргумантах ад разуму і аб аргумантах ад сэрца.

(З цыклю „Штодзенныя думкі“).

I.

На кожным кроку здараецца чуць: „беларускае мовы няма“. Але хто кажа гэта?.. Канешне, — навука. Тая навука, якая лічыць сябе судзьдзёю ва ўсіх гэткіх пытаньнях. Яна разгледзяла пытаньне аб

беларускай мове праз мікраскоп параўнаўчага моваведаньня, яна знайшла адзнакі паняцьця „мовы“ і „говора“, — яна і прысудзіла мове дванаццаці мільёнаў быць „говором“, „gwarą“!

Інтэлігэнтны апанэнт адразу ведае, дзе можна знайсьці адпаведны засуд і, адкрываючы фоліянты філёлёгічных досьледаў, памінаючы імёны прызнаных сьветам вучоных, урачыста кажа: „беларускае мовы няма“. А калі няма мовы,—дык ня можа быць гутаркі аб **нацыянальным** адраджэньні, — бо нацыю ў чыстым разуменьні гэтага слова азначаець перш за ўсё нацыянальная мова. Гутарка можа быць аб адраджэньні мясцовым, тэрыторыяльным, адраджэньні эканамічным, урэшці — сацыяльна-культурным, але не нацыянальным. На гэтым, ласьне, разьбіваецца еднасьць з беларускім рухам усяе грамады зрусыфікаванай, ці эвэнтуальна зпольшчанай інтэлігэнцыі, жывучай на Беларусі. Гэтая інтэлігэнцыя годзіцца далажыць свае сілы да адпаведнага **тэрыторыяльнага** адраджэньня Беларусі, і ў некаторых выпадках адчувае сябе нават гарачымі патрыётамі роднай краіны (стары — „месцовы патрыётызм“!),—але ненавідзіць беларускі „воляпюк“, і дзеля гэтага ні за якую цану ня хоча йсьці з адраджэньнем нацыянальным.

Спрэчка аб істнаваньні, ці неістнаваньні асобнае беларускае мовы —старая. Нагэтулькі старая, як старая славянская філёлёгія. Пачаткі яе мы знаходзім яшчэ ў канцы XVIII стагодзьдзя, у працах „патрыарха славянаведаньня“, Іосіфа Доброўскага і іншых чэхаў пазьнейшага пэрыяда. Займаліся ёй і палякі, больш за ўсіх знамяніты Ліндэ, прафэсар віленскага ўнівэрсытэту; урэшці — расейцы, пачынаючы ад А. Вастокава і Бадянскага да сучасных нам Срэзнеўскага, Шахматава, Карскага. Імёны, як бачым, усе надзвычайна паважныя і, на жаль,— ніводнае з іх не гаворыць на нашу карысьць.

Мы ня маем ні права, ні ахвоты павялічваць гэтую спрэчку доказамі за, ці супраць. Наша задача больш скромная: мы хочам зазначыць толькі адно, што... беларускаму адраджэньню няма чаго займацца гэтай спрэчкай. Гэта ня павінна значыць, што мы заклікаем да таго, каб не цікавіцца філёлёгічнымі досьледамі. Зусім не, — мы хочам толькі зазначыць, што **спрэчка** аб істнаваньні, ці неістнаваньні асобнае беларускае мовы ёсьць адно, а **адраджэньне** гэтае мовы і разам з ёй культуры,—другое, і што адно ад другога амаль ні ў чым не залежыць. Гэткая наша заява для ортодоксальнага вучонага вуха таксама павінна зычэць цынічным парадоксам. Але нічога ня зробіш: наша праўда нам даражэй за ўсё.

Зьявішча барацьбы навукі з жыцьцём у галіне мовы можна заўважыць усюды і сярод рожных народаў. Асабліва яскрава кідаецца яно ў вочы на прыкладзе серадвечнай лаціны. Лаціна, як ведама, была мовай усенькае асьвечанае Эўропы ва ўсю даўгую эпоху з VI па XVII век. Яна была падтрымана царквой — у тыя часы наймагутнейшай сілай; яна была мовай каралеўскіх двароў, дыпляматаў, філёзофаў і поэтаў. Значэньне яе, шырыня распаўсюджаньня—ад Толедо да Вільні—яе выпрацаванасьць і прывычка да яе, — усё гэта прамаўляла за тое, што ніякая барбарская мова ня зможа яе замяніць. Не дарма вядомы польскі іезуіт Пётр Скарга, абаронца берасьцейскай рэ-

лігійнай вуніі, у сваім трактаце „Аб адзінстве царквы“ пісаў у 1577 г. „грэкі абманулі рускіх тым, што ня далі ім сваеі мовы, але пакінулі мову славянскую, дзеля таго, каб рускі народ ніколі не дайшоў да запраўднага разуменьня і навукі; бо толькі праз лаціну і грэцкую мову можна быць зусім асьвечаным у навуцы і рэлігіі. На сьвеце яшчэ **ня было і ня будзе** (падчырківаньне маё — А. Г.) ні воднай акадэміі, ці колегіума, дзе маглі-б навучаць у іншай мове. Ніхто за дапамогай славянскай мовы вучоным быць ня можа“.

Аднак прабіла гадзіна і, ня гледзячы на ўсе гэтыя якасьці, ня гледзячы на шчырую абарону лаціны з боку ўсіх вучоных схолястыкаў,—яна загінула. Загінула ў барацьбе з „жывым жыцьцём“, з яго новымі патрэбамі. Першы штурм на ўсемагутную лаціну адбыўся ў часы першых рэлігійных рэвалюцыяў. У 1521 годзе „віртэмбэргскі салавей“ Лютар, седзячы ў Варбурскай турме, з мэтай „пазбавіць **простага** (падчаркіў. маё—А Г.) чалавека яго старых забабонаў“, перкладаець Біблію на нямецкую мову. Пры гэтым, дзякуючы беднасьці і нявыпрацаванасьці нямецкай мовы таго часу, ён, бывала, цэлымі тыднямі шукаў адпаведнага слова. Гэты 1521 год і да сяго дня сьвяткуецца ў Нямеччыне як нацыянальнае сьвята — і ня дзіва: пераклад Лютэра палажыў пачатак сучаснай нямецкай літэратуры. Папскі прастол пасылаў віртэмбэргскаму злачынцу праклён за праклёнам, „чортаву кнігу“ паліў на вогнішчах Рыма, Франкфурта, Нюрэнбэрга, — і ўсё дарма: прасыпаючаяся нямецкая нацыя робіць Біблію Лютара сваей народнай кнігай.

Той самы прыклад даець і Чэхія. Яшчэ раней за Лютара адзін з папярэднікаў Яна Гуса, рыцар і філёзаф Штітны, пачынаець пісаць пачэску, кажучы, што „Гасподзь мілуець чэскую мову ня менш за лаціну“. Велізарны гусыцкі рух, абхапіўшы увесь чэскі народ, падняўшы яго на нявіданную вышыню масавага энтузыязма, — праіходзіць пад тым-жа знакам барацьбы за родную стыхію і роднае слова. Тое самае бачым мы і на нашай старасьвецкай Бацькаўшчыне, калі Францішак Скарына, а за ім Базыль Цяпінскі ў тых-жа мэтах, як і Лютар, перэкладаюць Біблію на беларускую мову „людзям **простым** к доброму навучаньню“.

Усе яны імкнуліся гаварыць, ласьне, да простага народу ў простай мове і ўсе яны тым самым станавіліcь супроць панаваўшых правіл, тым самым выклікалі зьдзек і пагрозу з боку тагачаснага вучонага сьвету. Перэмаглі не вучоныя з іхнімі фоліянтамі, а перэмаглі яны— апосталы народнай прастаты, ведаўшыя яе патрэбы і ўмеўшыя „слухаць жыцьцё“. Дзесяць стагодзьдзяў цягнулась ноч над заснуўшай Эуропай, дзесяць стагодзьдзяў спалі яе народы, — але даволі было павеяць па заснуўшым абшарам рэвалюцыйным паветрам вялікага Адраджэньня, як зацьвілеўшая фартэцыя вучоных забабонаў пачала абвальвацца і народы загаманілі сваей „простай“ „барбарскай“ мовай. Адна старана за другой спачатку, Італія, за ёй Гішпанія, Францыя, Нямеччына, Англія, — пачалі тварыць нацыянальную літэратуру, не пытаючыся навукі ня гледзючы у вучоныя фоліянты.

Ня менш яскрава незалежнасьць жыцьця ад навукі выявілася ў

гісторыі украінскае мовы. У спрэчцы аб яе істнаваньні прынялі учасьце ўсе выдатнейшыя расейскія філёлёгі, так сама як немцы, палякі, чэхі. Шафарык адзін з першых катэгарычна заявіў, што „украінская мова так сама асобна і самастойна, як кожная іншая славянская мова". Да яго апініі далучыліcь немцы Міклош і Шлейхер. Расейцы занялі пераважна нэгатыўнае становішча. Вядомы Погодін казаў, што „гэтая мова ня была ніколі мовай старай Русі", Срэзнеўскі даводзіў, што яна „ёсьць гаворка пасрэднай фармацыі, узьнікшая толькі XII—XIV стагодзьдзі". У тым-жа, ці блізкім тоне выказваліcь Бодянскі, Лароўскі, Ламанскі, Потэбня, Жыцекі et tutti quanti. Украінскія дасьледчыкі, як Максімовіч, Наўменко, Аганоўскі (галічанін) і інш., стаялі зразумела за поўную самастойнасьць украінскае мовы з усімі, выцякаючымі адгэтуль правамі. Пытаньне некалькі разоў „узыходзіла" на разгляд Расейскай Акадэміі Навук, у якой апініі так сама падзяляліся і якая ніяк не магла дайсьці да пэўнага адказу. У часопісах 60-х гадоў „Москвитянинѣ", „Русской Бесѣдѣ", акадэмічных „Извѣстіях", украінскім журнале „Основа", і г. д. вялася гарачая палеміка аб тым-жа пытаньню. Прыняў у ей учасьце і тагачасны міністр асьветы Валуеў, які сваім загадам „украінскай мовы ня было, няма і быць ня можа", урэшці „вырашыў" запутанную проблему. Аднак, таксама як і аб беларускай мове, спрэчка аб прыродзе мовы украінскай, цягнецца і ў нашыя дні.

Аднак, ня гледзючы на гэтыя спрэчкі, украінская мова **ужо** разьвілася да агульна прызнаных форм,—і зрабілася гэта ня **дзякуючы** філёлёгічным спрэчкам, **а ня гледзячы** на іх. Палеміка йшла сваім парадкам, а жыцьце — сваім. Вучні і энтузіясты украінскага адраджэньня радзіліся ня гэтай полемікай, не вучонымі аргумантамі, а чымсьці іншым. Яны радзіліся дзякуючы пачуцьцю праўды, якую нясло у сабе адраджэньне іх бацькаўшчыны. Яны, як іх папярэднікі з часоў сярэднявечча, „слухалі жыцьце", убіралі ў сябе яго сокі, удыхалі яго дыханьне,—йшлі за ім і ў гэтым ходзе, у барацьбе за яе правы тварылі мову, адваёўвалі сабе мейсца пад сонцам. Яны бралі не аргумантам, ня розумам,—а пачуцьцём.

Ясна: нацыянальнае адраджэньне творыць у першую чаргу ня розум, а пачуцьцё народа. Мы кажам, — у першую чаргу, бо калі пачуцьцё праб'ець сабе шлях і адраджэньне нацыі выявіцца ў дакананых фактах, толькі тагды на падмогу яму і для аканчальнага растлумачаньня і апраўданьня гэтых фактаў прыходзіць розум, навука, філёлёгічная і філёзоўская крытыка, фігуральна кажучы, „цяжкая артылерыя". На вялікім прыкладзе гэта можа давясьці, цікуючы за развіцьцём нацыянальных рухаў у Эўропе у новыя часы. Вядома, прыкладам, што нацыянальныя рухі у Італіі, у Нямеччыне, рухі славянскіх народаў пад уціскам Турчыны і Аўстра-Вэнгерскай манархіі абхапляўшыя сабой шырокія масы і ўздымаўшыя іх на вялікія чыннасьці,—усе яны не сустрачалі спагаду з боку рацыяналістычнае навукі. Апошняя доўгі час не вызнавала народнасьці дастойным чыннікам дзяржаўнага будаўніцтва, лічыла сябе і свае абстрактныя прынцыпы вышэй за ўсе, і сустрачала народныя імкненьні акрэсьляна варожа. І толькі калі нацыянальнае начала перэмагло, пасьля вялікіх

войнаў за нацыянальную незалежнасьць,—ужо ў сярэдзіне XIX века—навука пераходзіць на новыя рэйкі. Канта з яго абстрактнымі катагоріямі („Дзяржава ёсьць аб'еднаньне людзей пад юрыдычным законам"), у якіх не было мейсца эмоцыі, заменяе Савіньні, Шэльлінг, Гегель з іх „гістарычнай школай" і апотэозай „народнага духа". На малым прыкладзе гэта відаць з дробных фактаў нашае сучаснасьці: калі сілай падзей, у выніку перамогі новага жыцьця над старым ладам паўстала Беларусь як незалежная краіна,—шмат хто з сучасных вучоных, раней варожа і адмоўна ставіўшыхся да беларускай мовы, пачынаюць яе адкрыта вызнаваць і апраўдываць (гл. пазыцыю проф. Расторгуева, акад. Карскага і інш.—„Маладая Беларусь", стр. 45).

Зара кожнага нацыянальнага адраджэньня пачынаецца ня розумам, а сэрцам, пачынаецца ня формулай, а песьняй. Поэт — вось хто звычайна зьяўляецца ініцыятарам нацыянальнага абуджэньня, вось хто адкрывае першую страніцу „Новага Завета" Роля вучонага — чародная і другарадная — яна выцекае, сьледуе за рольлю поэта. Гомэр у Грэкаў у Афінах, трубадуры і мэнэстрэлі ў раманскіх народаў, падобныя ім мінэзінгэры і майстэрзінгэры ў народаў гэрманскіх; у чэхаў—поэт Пухмайер і яго школа, у сэрбаў—Давідовіч і яго плеяда, у харватаў — Гай, Вукотіновіч, Прерадовіч; у баўгараў—Славейкаў, Геров; у ўкраінцаў—Шеўчэнка, у латышоў—Вайдэнбаум і Райніс „маладой Латвіі", у індусаў—Рабіндранат Тагор — і так бяз канца. У нас беларусаў запраўдным пачынальнікам нацыянальнага руху трэба лічыць народнага поэта Багушэвіча.

Падобнае зьявішча зусім натуральнае. Песьня бліжэй стаіць да жыцьця, яна пяець яго, вылетаець з душы і вуснаў, так што нават элемэнт волі, г. зн. пэўнай духовай напружанасьці, патрэбны ў іншых галінах творчасьці, тут амаль адсутны. Паэт і яго песьня таму зьяўляюцца першымі на ніве нацыянальнага усьведамленьня, — „першымі ластаўкамі!"—што для іх узьнікнавеньня заўсёды **істнуець адпаведны грунт**. Народ, які не памёр — жыве ў сваей песьні, што гаворыць аб яго сумах, радасьцях, аб усім, што яго акружаець. Паэту, як сыну народа, што зьвязаны з ім нявіднымі ніцямі і адчуваець яго пульс—вядома песьня народная, яе матыў і зьмест. Гэткім чынам у яго ёсьць ужо **гатовы матэрыял**, якому трэба толькі прыдаць адпаведны літэратурны выгляд.

Поэту, каб тварыць, ня трэба спэцыяльнай падгатоўкі, як прыкладам гісторыку, юрысту, ці хіміку. Каб мець сваіх уласных вучоных, нацыі трэба прайсьці даўгую школу, прарабіць значную культурную працу. Таленты хіміка, астранома, мэдыка рэалізуюцца не адразу, а пасьля шматгадовай тэхнічнай спэцыялізацыі. Талент поэта — дар Божы, і рэалізуецца ён звычайна з моманту свайго адкрыцьця. Праўда, вышэйшыя асягненьні, вяршыны творчасьці даюцца поэту ня адразу. Багатыя зьместам і дасканалыя па форме творы поэта выходзяць з пад яго пяра толькі пасьля грунтоўнага пазнаньня ім як сябе самога, так і ўсяго народнага быту, пасьля цярплівай працы над сваім даравааньнем. Але звычайна поэт пяе сваю песьню не пытаючыся ні

сябе, ні другіх аб сваей дасьпеласці, аб сваім „праве“ на песьню — у гэтым крыецца некрытычная par excellence істота поэтычнага дару.

Поэт і яго песьня зьяўляюцца першымі ластаўкамі нацыянальнага адраджэньня яшчэ і з другое прычыны. Зьяўленьне іх як першых выклікаецца ня толькі унутранымі і вонкавымі варункамі, дзякуючы якім і сярод якіх ён творыць,—але таксама і **мэтамі**, якія ставіць ён прад сабой. Мэта гэта—узварушыць народ з пасыўнай астоі, прабудзіць у ім свайго „Я”, выкаваць у ім волю для барацьбы за будучыну. Хутчэй за ўсё і лепш за усё асягаець гэтай мэты песьня і поэтычны верш. Гэта таму, што яна **дзеіць безпасрэдна на душу** народа, а душа народа, яго пачуцьцёвыя перажываньні, як ведама, ёсьць галоўны фактар у нацыянальным абуджэньні. У кожнай барацьбе найбольшую ролю адыгрывае змагарная эмоцыя, якую, ласьне, і абуджае і ўзгадоўвае поэт, далёкі ад сьцюдзенага разрахунку сіл, караючы ўсё трусьлівае, сьпяваючы аба ўсім гэроічным, клічучы на ахвярнае змаганьне са злом, несправядлівасьцю і насільствам.

На апошку,—песьня, гэты запраўдны „аргумант ад серца“ *) — дзеіць і захоплівае сабой **найбольшую грамаду** людзей. Лік асоб, што знаёміцца з імі не ў параўнаньню большы за той, што знаёміцца з аргумантамі навукі. Гарызонт уплываў поэзіі і літэратуры — неабмежана шырокі. Аргумантам гэтым захопліваецца і пераконваецца асьвечаны і неасьвечаны, багаты і бедны, стары і малады. Прад натхнёным заклікам поэта, які звaрачваецца да сэрца людзей, падаюць соцыяльныя, рэлігійныя, клясавыя перэгародкі. Для запраўднага поэтычнага генія ня істнуець нават і час: са ўсіх іншых правадыроў нацыі поэт найбольш няўміручы. Ен сеіць сваё зярнё на агульнай народнай ніве і на ўсе часы,—вось чаму са ўсіх сейбітаў поэт выходзіць на родны палетак раней за ўсіх.

(Працяг будзе).

**А. Галынец.**

---

*) Я сьведама не раблю рожніцы паміж песьняй-сьпевам і песьняй-вершам. У данным выпадку гэта адно і тое: побач і разам з беларускім поэтам — ідзе беларускі нацыянальны хор, і, наадварот, побач з хорам ідзе беларускі поэт. Для характэрыстыкі даволі прачытаць аб тым, як адбіваецца „заваяваньне“ новадалучаных да Савецкай Беларусі усходніх абшарау. Калі Менску трэба паказаць жыхарству гэтага абшару „што мае Беларусь“, — калі яму трэба узбудзіць у іх нацыянальнае пачуцьце, — ен пасылае туды перш за усе беларускі хор і сваіх поэтау. І можна быць пэуным да канца, што, ласьне, яны, а ня соткі прапагандыстау, хоць бы нават шчырых і таленавітых,—узбудзяць гэты гібеючы у нацыянальнай несьвядомосьці абшар.

# Падсьведамае і сьведамае у „душы беларускай“ Сыракомлі

**паводле Антона Навіны „Przegląd Wileński“ № 18—1924 год.**

У сваім юбілейным трактаце аб Сыракомлі *) проф. Здзехоўскі за галоўную ўласьцівасьць творчасьці „Lirnika Wioskowego“, узнаў яго „беларускую душу“, каторая праявілася ў поэзіі Сыракомлі мо‘ нат бяз веды поэта.

Комэнтатар працы проф. Здзехоўскага, п. Суліма **), аналізу духовых уласьцівасьцяў Сыракомлі папхнуў на крок далей, паставіўшы пункт над *і* там, гдзе **польскі** дасьледчык — асабліва на арэне віленскага, хворага польскага шавінізму—апошніх вывадаў не зрабіў, недаказаў праўды аб народным вобліку Кандратовіча.

З абурэньнем слухала трактат проф. Здзехоўскага „narodowo myślące“ польскае грамадзянства нашага гораду. З абурэньнем чытала (нат. калі хацела чытаць!) вострую і надзвычайна меткую аналізу беларускага крытыка, які пісаў пад псэўдонімам Сулімы. Аднака-ж досыць думкай перакусіць толькі гэта, што абодва цьвердзяць, каб згадзіцца з імі, што Кандратовіч, ужо з паходжаньня — з дзеда і прадзеда—зьвязаны з беларускай зямлёй—ня мог, калі-б нават хацеў гэтага, вызваліцца ад аграмадных уплываў прыроды, краёвага вобразу і жывога народу беларускага. Ня мог, бо уплывы штодзеннага сутыку пранікаюць да **падсьведамай** духоўнай сфэры чалавека. не пераходзячы праз прызму крытычнай і аналізуючай сьведамасьці.

Аднак можам з праконаньнем сьцьвердзіць, што Сыракомля ня толькі не хацеў вызваліцца ад гэтых беларускіх уплываў, але глыбокім і сэрдэчным учуцьцём кахаў Беларусь і народ яе, а **сьведамае** становішча яго адносна беларускасьці, якое разумеў як загадку народнага адраджэньня Беларусаў, мала рожнілася ад... пoглядаў сучасных нам піянэраў народнага беларускага руху. Прынамся калі йдзець аб самастойнасьць беларускае мовы і літэратуры.

Сьцьверджаець гэта самы **факт пісаньня вершаў пабеларуску** Апрача знанага ўсім і цытованага праф. Здзехоўскім верша, які вітаець „добрыя весткі“ з Захаду—рух рэволюцыйны 1848 году, асталіся па Сыракомлі і другія беларускія творы. На сьлед гэтых натрапіў нязмучаны шукач, знатны бібліограф на полі беларускасьці, п. Ромуальд Зямкевіч. П. Зямкевіч пільна студыюючы гадавікі даўнейшых

*) Prof. M. Zdziechowski, Władysław Syrokomla: Pierwiastek litewsko—białoruski w twórczości polskiej. Wilno 1924 г.

**) Суліма. Проф. Здзехоускі аб беларускай душы. „Змаганьне“ № 21 — 1923 г. таксама асобная кніжачка, Вільня, 1924 г. Гета-ж сама па польску. „Przegląd Wileński“ № 4, 5 і 6 г. 1924.

газэт, таксама натрапіў на надзвычайна цікавы **артыкул Сыракомлі адносна беларускасьці**, друкаваны ў № 16 „Gazety Warszawskiej“ з году 1857 (бачына 5 і 6), якога копію ласкава пераслаў ніжэй падпісанаму (А. Навіне.—Рэд.). Пазволім сабе ўзяць найбалей характэрныя аддзелы з гэнага артыкулу, бо-ж гэта ёсьць саўсім сьведамае, глыбока перадумана высказаньне нашага поэта.

Вось, як бачым з генага артыкулу (Гэбдомадалія—Ул. Сыракомлі. Барэйкоўшчына 17 сьнежня 1856 г.), наш поэт пільна сьледзіць за разьвіцьцём беларускай літэратуры у творах Вінцука Дунін-Марцінкевіча. Аб творы гэнага-ж „Вечарніцы“ выдрукаваў крытычную заметку ў „Gazecie Warszawskiej“ (былі усё-ж такі ў гэтай часопісі і лепшыя чым сяньняшнія часы!), якая выклікала полеміку незнанага аўтора, падпісанага крыптонімам „У“. Па выхадзе з друку новай кніжачкі Дунін-Марцінкевіча „Ciekawyś? Przeczytaj!“ (Менск, 1856), у якой знаходзім беларускую повесьць „Купалла“, аб ёй піша Сыракомля літэратурную справаздачу, а гэтым самым дае адказ на рад пытаньняў, заданых яму панам У:

„Так: у N-ры 138 „Gazety Warszawskiej“ за год 1856 пытаецца нас пан „У“ вось што:

„Ці творы, пісаныя ў мове беларусаў, заслугоўваюць на радаснае павітаньче, ня гледзячы на вартасьць іх зьместу?“ Адказваем: ніводны і не ў вадной мове пісаны твор, не заслугоўваець на радаснае павітаньне, калі ня ёсьць пекным або прыдатным; але, калі якая мова або дыалект, з нелітэратурнага робіцца літэратурным, кожная, выходячая ў гэтай мове кніжка заслугоўваець на ўвагу, — як факт патрэбы пісаня ў гэтай мове або дыалекце.

**Другое пытаньне**: „Ці гэтая мова (беларуская) дасца выгнуць да ўсіх патрэб думкі і стылю, і вырабіцца да ступені, заслугоўваючай на назоў мовы асобнай?“

**Адказ**: Так, таму, што мае досцыь лёгкасьці, а разам з гэтым ісль, аддае ў поэзіі мягкія і дэлікатныя вучуцьці, у мове народнай мае лёгкія звароты і меткія словы. Шмат ёй бракуе слоў дзеля адданьня таго, што не ўваходзіць у склад паняцьцяў і патрэбаў нашага народу, але ў меру поступу самога-ж народу і ўлітэратурненьня мовы, патрапіць са свайго кораня выпрабляць словы і выражэньні, якіх сяньня ня мае. Кожная мова пераходзіць эпоху дзяцінства.

**Трэцяе пытаньне**: „Ці да гэтае меты варта імкнуцца, у гэтым нат сумніўным дапушчэньні, што дапяцьцё яе было-б магчымым?“

**Адказ**: Варта і трэба, як да ўсяго, што імкнецца да поступу. Занадта агульна багатую мову Славяншчыны разцяў паважаны опонэнт на чатыры толькі галіны, гэта ёсьць: на расейскую, польскую, чэскую і ілірыйскую мовы. Не пярэчым, што гэтыя чатыры мовы стаяць на чале славянскіх дыалектаў, дзякуючы сваім літэратурным абробкам, але пашто-ж іншыя мовы адсовываць ад гэтых абробак, за што ў мове Беларусаў дагледжываць толькі мешаніну расейскае і польскае моваў? ці-ж пад гэтае самае азначэньне падцягнуць і укра-

інскую мову? калі гэтак, то чаму паважаны опонэнт чэскую і ілірыйскую мовы падносіць да годнасьці моваў асобных калі-ж у іх таксама знойдуцца расейскія і польскія словы.

Найсільней пярэчым гэтаму, што гаворыце дальш, паважаны опонэнт, што „між расейскай, а так наз. рускай мовай, толькі тая рожніца, якая ёсьць між літэратурна апрацаваным творам і народнай думкай“. Але-ж таксама і народ расейскі ёсьць яшчэ непісьменны і мае сваю простую мову, далёка ад літэратурнай абробкі; з гэтага выходзіла-б, што простая мова расейскага народу будзе саўсім гэтай самай, што мова Русінаў, бо паводле опонэнта, рожніца месьціцца толькі ў абробцы. Гэтак аднака-жа ня ёсьць. У істоце, ўсе славянскія мовы маюць амаль не адныя і тыя самыя словы, гэта ёсьць імёны і дзеясловы, рожніца толькі ў націсках, прозодыі і радзе іменных слоў; адным словам у духу моваў; дык за што-ж гэтыя рожніцы называць **сапсуцьцём**, калі яны ёсьць уласьцівасьцямі дыалекту? чамуж гэткую ўласьцівасьць прызнаўшы мове чэскай, адмаўляць яе русінскай мове? Ахвотна згаджаемся толькі на адно з опонэнтам, што абробка ўсякай мовы ня можа быць працай аднаго, або некалькіх геніяў, але павінна быць працай усяго грамадзянства, каторае гэтую патрэбу адчувае і стане на пэўную ступень поступу. Але ці-ж кары—годнай ёсьць рэч, калі нехта чуючы ў сабе ахвоту і здольнасьць захоча гэтаму народу працерабіць дарогу да поступу ягонае мовы? Ці-ж мы не ў абавязку з гэтым народам падзяліць наш штодзенны хлеб, а така-ж хлеб духа? ці-ж сталася што-небудзь благое на полі чыста літэратурным, што ў Расеі Катлярэўскі, а ў нас Падура пісалі ў мове украінскай? ці-ж іхнія песьні не блукаюцца **ўжо па вёсках** украінскіх і сваёй лепш абробленай нотай не спаўняюць Амфіановага пасланьня?

З глыбокай пашанай вельмі паважанаму опонэнту паўтараем: На гэтым полі працаваць **можна і варта**. Зьмешчаючы дальш крытыку твору Дунін-Марцінкевіча „Купалла“, Сыракомля так канчае цытаваны намі свой артыкул:

„Ў гэтым творы П. Марцінкевіча (бедным у зьмесьце, але багатым у вобразы, якія сьведчаць аб талянце імагінацыйным аўтора), знаходзім яшчэ адзін доказ аб тым, аб чым ужо казалі, гэта ёсьць, што мова Русінаў мае ў сабе варункі самастойнага поступу. Аўтор ужываў слоў і коляраў чужых чыста уважанай поэзіі народу, аднака-ж не сапсуў чыстасьці мовы, не сказаў нічога, чаго-б гэты народ не зразумеў“.

І, даючы рад беларускаму поэту парад, як павінен дбаць аб захаваньні свойскіх уласьцівасьцяў мовы таксама фантазіі народу, канчае зовам да Марцінкевіча, каб не закідаў пісаньня па беларуску дзеля... польскіх вершаў.

„Бог ня ўлівае ў галовы і сэрцы нашыя бяз мэты замілаваньня і таленту да нейкай галіны веды. Ён адносна нас і нашага пасланьня мае мэты, якія мы ў абавязку споўніць. Народная поэзія, русінская, ёсьць арэнай П. Марцінкевіча — хай трывае на ёй, як сапраўдны гладыятар“.

Гэты гарачы кліч можа найясьней нам гаворыць аб адносінах **разумовых** Сыракомлі да справы адраджэньня беларускай народнай літэратуры і беларускай літэратурнай мовы. А факт выхваляньня творчасьці Марцінкевіча на шпальтах польскае прасы — ці-ж гэта не маральнае супрацоўніцтва з беларускім поэтам, моʻ ня менш цэннае ад супрацоўніцтва Манюшкі, які да комэдыё — опэры Марцінкевіча „Сялянка“ напісаў музыку? (аб гэтым **сяньняшнія** біографы Манюшкі ўспамінаць ня любяць!). А гэтыя парады, гэткая дбайнасьць аб чыстасьці беларускае мовы? А гэтая крэпкая, неўзварушаная іх вера, што для беларускага адраджэньня **можна і варта** працаваць?“ „Усё гэта ў часе першых, слабых яшчэ крокаў на дарозе поэтыцкай творчасьці Беларусаў, калі яшчэ мовы не было аб „грамадзянстве“ беларускім! Якжа-ж дзіўным і... дзікім здасцца кожнаму безстароннаму дасьледчыку беларускае справы становішча ў гэтай справе „narodowo myślącego“ грамадзянства польскага з **сяньняшнай**, Gazetą Warszawską на чале—сяньня, калі ня толькі „грамадзянства“ але і **дзяржаўнасьць** беларуская ёсьць фактам даконаным, калі беларускі народ мае свайго Купалу, Коласа, Багдановіча і шмат, шмат іншых поэтаў эўропэйскае меры, пры якіх такі Марцінкевіч губіць усякую вышэйшасьць?! Калі ў мове беларускай, якая мае сталую ўжо, на падставах навуковых апёртую граматыку, выходзяць падручнікі для школ ніжэйшых і сярэдніх, адбываюцца выклады цэлага раду прадметаў на Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце ў Менску? Калі ў гэтым-жа Менску, дзе першы раз і, нажаль, апошні перад 70 гадамі слухалі музыкі Манюшкі пры выстаўленьні „Сялянкі“, разьвіваецца памысна беларускі тэатр, які ня ў чым не уступае як адносна высокай ступені артызму, так і багацьцем рэпэртуару, іншым тэатрам, балей культурных славянскіх народаў?!...

Але аб гэтым — толькі мімаходам. Вярнуўшыся да цытованага артыкулу Сыракомлі, мы ў абавязку яшчэ раз сьцьвердзіць, што ня толькі ў сферы творчасьці поэтыцкай, дзе прым трымаюць **падсьведамыя** чыннікі і уплывы, наш поэт даў яркі выраз душы беларускай: але і **саўсім сьведама** — сваімі артыкуламі крытычнымі і адраджаючай сучаснай яму беларускай поэзіі—прычыніўся Сыракомля да ўзмацненьня і разьвіцьця беларускай адраджэнскай ідэолёгіі, а гэтым самым—і **да далейшага украпленьня і разьвіцьця яе душы.**

Пераклаў з польскага **Фр. Гр.**

# Характар беларускіх гукау дз, ц, дж, ч.

Дзеля таго, што далёка ня ўсе Беларусы разьбіраюцца ў характары гукаў **дз**, **ц**, **дж**, **ч**, мы з працы проф. Карскага даем іх апісаньне. *Рэд.*

Зубны мяккі д' + зубны сычачы **з** даюць складаны гук д'з. У беларускім нарэччы гэты гук вельмі мяккі, пры гэтым абедзьве яго часьці цесна зьліваюцца адна з адной. Дзеля гэтага сусім зразулелы спробы некаторых дасьледчыкаў беларускае мовы (П. Безсонава, Е. Раманава) пісаць гэты гук адным знакам Д̄; толькі ў аснову гэтага гуку (можа ня зусім правільна) яны кладуць **д**: гэты гук толькі дае яму пачатак, а цягучая (даўжэйшая) часьць яго—**з**. Нагдядным спосабам можна яго прадставіць гэтак д'з, або $\frac{д' + зз...}{2}$. Мы дзеля гэтага задзержуем звычайнае яго перадаваньне, каторае, хоць і ня сусім выгоднае дзеля пісаньня, але прынамся ня можа весьці да фонэтычных абмылак. Гэткае мяккае д'з' ў слове **дзед**; крыху цьвярдзейшае ў **дзьве** і **дзьверы**. Зусім цьвярдое **дз** ведама толькі ў словах: **дзын**, дзыбаты **палюдзку** (зап. I, 440), што аднак трэба чытаць палюцку,

тс складаецца з зубнога мяккага т + зубны с $\left(т'с\ або\ \frac{т'+сс...}{2}\right)$ **у** прынятым нашым правапісе пішацца **ц**. Гэтым напісаньнем будзем і мы карыстацца. У беларускім нарэччы **ц** бывае цьвярдым: **цар**, сярэднім: цвік, і асабліва часта мяккім: **цётка**. **Ц** цьвярдое і мяккое **не** аднаго находжаньня.

Зубны **д'** + **ж** даюць дж. **Д** дае толькі пачатак гуку, канчаецца—ён цягучым **ж** $\left(д'ж\ або\ \frac{д' + жж...}{2}\right)$. У белерускім нарэччы **гэты** гук бывае даволі цьвярдым: **віджу**.

т'ш $\left(= т'ш\ або\ \frac{т' + шш...}{2}\right)$ дзеля напісаньня якога будзем карыстацца знакам **ч**, бывае толькі цьвярдым: **чуць**.

**Бѣлорусы II,1, 18—19.**

# З нівы беларускага мастацтва.

У пару, калі—як здаецца—пачынаецца беларускі рэнэсанс — адраджэньне, з затаёным дыханьнем чакаем мы мастакоў вялікае ідэолёгіі, якія збудзяць заспаную народную творчасьць.

Такое велізарнае засільле духа на творчай дарозе да адраджэньня выказывае нам у мастацкіх абразох сваіх беларускі маляр-артыст Драздовіч. Ня меў я магчымасьці абняць цэласьці яго духовай творчасьці, даволі плоднай і багатай. Але і тое, што бачыў, дало мне стольki задумы, што аж мушу гэтым падзяліцца з тымі, каму дорага кожная новая хваля нашай духовай творчасьці.

Драздовіч знае напрамкі найнавейшых малярскіх школ. Бярэ з іх найбольш характэрную для беларусаў: экспрэсыёністычную сымболіку. Пры яе помачы стварае цэлыя композыцыі, што обымаюць ледзь ня ўсю ідэолёгію сучаснай Беларусі. Хто ўгледзіцца у яго абразу. Пагоні, знайдзе там і мэту, і церні, і злыдні мучэньня душы беларускай, — душы адважнай з разгонам Промэтэя і з мукай Танталя. У абразе з 1922 году, маляваным, здаецца, пад уражаньнем рыскага трактату, Драздовіч замкнуў сынтэзу цэлага сучаснага беларускага гора: гора разьдзелу жывога цела на ўсход і захад. Беларус аднак жыве. Дух ягоны (гэні) над гідрай імпэрыялізму вызваліўся між пажарышч уласнай будоўлі і ўглядаецца ў сінію даль здвояным зорам Усходу і Захаду: у даль, дзе відзіць сьвятыню духа, рэалізацыю вялікай ідэі, — Беларускі Народны Дом. Над сьвятыняй зор божага Огляду спачывае, спагадна ўгледаючыся ў крывавую ніву творчага змаганьня: зор гэты повен неадгаднай Прамудрасьці. Абраз у целасьці служыць сынтэзай сучаснае Псыхэ беларускай, панятай у як найглыбейшым ідэйным сэнсе.

Тэхніка выкананьня абразу выдзержыць крытыку найбольш выбрэднага эстэтыка, а есьлі каму і непанятна на першы погляд сымболіка, то вінавата тут напэўна не экспрэсыя ці імпрэсая маляра— даволі простага ў сваей інвэнцыі. — Сымболіка рэч цудная, а цуды агледаць ня ўсім можна: патрэба на тое асобага складу душы. Мастак, што творыць вялікія духовыя вартасьці пры помачы ігры сьвятла і цені рожнафарбных матываў—вось тварэц цуду: цуду незразумелага для маладушнага натоўпу, катораму мастачы сказаць можа заўсёды: „Не кідайце пэрлы для парсюкоў“.

Апроч матываў народных у шырокім сэнсе гэтага слова, Драздовіч пераносіцца лёгка і ў сфэру агульна — людзкага імкненьня. Такімі пазнаў я тры абразы: 1) „Зямля“ — 2) „Вечная Будыніна“ — 3) „Рэвалюцыя і Эвалюцыя“. Першы абраз пераносіць нас у сфэру прабыту і найдалейшую концэпцію творчасьці на зямлі, калі „Дух божы ўнасіўся над вадамі“. Сымболіка абразу мае матывы біблійныя, снаваныя на даных сучаснае навукі аб істоце матэрыі і духа. Абраз імкнецца выказаць нейкую ледзь адгадную трагэдыю людзкога быту на зямлі. Другі абраз—„Вечная Будыніна“—прадстаўляе антытэзу часу і вечнасьці. „Эвалюцыя і Рэвалюцыя“ выясьняе дарогу, у якой адбываецца разьвітак культуры. Дзьве сілы даюць тут быт рэальны сымболізаваны з аднаго боку львом, з другога чалавекам. Сіла льва творыць моцна, але будыніна зарысовываецца і сфінкс—леў валіцца. Сіла людзкага гэнія гэта сіла найрэальнейшая: сфінкс з тварам чалавечым перамагае. Ён цьвёрда стаіць на крушнях—пажарышчах вяковых і зорам пэўным угледаецца ў ледзь павідную даль—будучыну.

Наагул абразы Драздовіча будзяць паважныя настроі. Артыст — як відаць—шмат пражыў,—магчыма, што перайшоў усю гіэну шуканьня ідэалу — і вось прычына, дзеля якой узяў сымбалізм аружам для заховываньня паасобных фрагмэнтаў сваей буйнай філёзофіі жыцьця. Пашчасьліў яму Божа, бо талент гэта немалы і дачакае пэўна належнай ацэны. Драздовіч паміма так глыбокага зьместу свайго ма-

стацтва, мае капітальную гумарыстыку (творыць тыпы карыкатуральныя). Гумар яго тым дзіўнейшы, што варункі ў якіх жыве артыст, не дастаўляюць вясёлых настрояў. Цяжкое матэр'яльнае палажэньне нашага шматнадзейнага мастачага адбіваецца, аднак, на яго творах: шмат канцэпцыі недаводзіцца да канца, або выконываецца надта прымітыўнымі паспешнымі сродкамі. Гэтае цяжкае палажэньне змушае яго да сумнай для мастака залежнасьці, есьлі не ідэйнай, дык прынамся партыйнай („Wyzwolenie"). Але чалавек, што творыць у абразох сынтэзу беларускай духовай ідэолёгіі, не запрадасьць ніколі сваей думкі. Прыпамінаю тут адзін верш Купалы; у каторым ён дзякуе за хлеб — соль паном, што хацелі купіць яго талент. У творчасьці артыстычнай няма ніякай сымоніі, бо артыст нікому не падлягае. Драздовіч, калі пойдзе шляхам сваей жывой творчасьці, мае будучыну вялікую. Магчыма, што ён створыць сымболь душы сучаснага адраджэньня. Гэта дало-б яму права быць адным з гэніяльных волатаў, якія паявяцца па векавой беларускай мартыролёгіі. Руіны і пажарышчы—частыя матывы ў яго творчасьці. Ня дзіва. Вайна — гэта банкроцтва старых вартасьцей, банкроцтва думкі філёзофічнай XIX сталецьця, а нават банкроцтва ўсей мяшчанскай псэўдокультуры. Наш артыст-маляр ня толькі ўгледаецца ў вялікія намэты ідэйныя беларускай душы: голас яго нясецца з бяздоньня атэізму ўзвыж, дамагаючыся з неба паварату запрочанай язьні людзкой. Агульна людзкія ідэі нашага мастачага адчыняюць перад ім шырокі кругазор творчай інвэнцыі. Беларусь чакае ад яго многа і не павінна памыліцца!

К. Св.

# Шляхам жыцьця.

Я ехаў шырокаю дарогаю. Было чыстае, яснае, сіняе неба. То сям, то там, плывуць, як па хвалям няспакойнага мора, па паветры бела-палавыя хмаркі. Сонца сваімі залатымі праменьнямі абліваю ўсё кругом. З паўначы падуваў халодны вецярок. З абудвых бакоў шырокага шляху, заросшага рожнымі краскамі, ды зялёнаю мураўкаю, рос малады лес. Злева—у чалавека беразнік, вырасшы за часы вайны, зправа—падняўшыся ўгару хвайняк. Конь спакойна, мернымі шагамі йшоў па пыльнай дарозе ляніва матаючы галавой.

Незьвяртаючы жаднае ўвагі на ўсё гэтае я спусьціў галаву й думаю цяжкую думку. Цяжкія, цяжкія, маркотныя думкі, як дакучлівыя мухі, бяз упынку лезьлі мне ў галаву, мучылі маю душу. Глядзішь кругом: на гэты дзесяці-летні беразнік — вынік вайны, цёмны маркотны хвайняк, ад веку думаючы нязразгадную думку, на яснае сіняе неба, на мох—зазюлькі лён паросшы пасярод беразніка й кустоў ялаўца, а ў душы—думкі, цёмныя як ноч, маркотныя, як сьмерць, цякуць і цякуць адна за другою, роўна гэныя хмары на сінім небе.

Цякуць яны; то ў няведамую даль неабнятага неба, то ў родную вёску, з босымі, галоднымі дзеткамі, то, у рэшці, падступаюць

клубком да горла, моцна моцна душачы, як бы хочучы, зусім задушыць.

Скрозь гарачыя слёзы, перад вачыма праносяцца адна за другою родныя вёскі з хаткамі бяз вокан, бяз дзьвярей, бяз стрэх, каміноў і г. д. Далей, босыя, абарваныя, часта з скарынкаю чорнага хлеба у руках, бегаючыя дзеці. З другога боку прытуліўшыся да паркану, з блішчачымі, як зорначкі вачымі, стаіць дзіцё з завісьцьцю гледзячы на сухую скарынку хлеба ў руках свайго таварыша.

Душу ахватваець пры гэтай карціне, які то невынасімы смутак да горла з балейшай сілай падступаець і ўсё мацней і мацней душыць, як бы зусім хочучы задушыць, сьлёзы.

Няма сілы глядзець на гэных на паўразьдзетых, на паўгалодных, а быць можа зусім галодных дзяцей. А далей, з торбачкаю за плячыма, памаленьку, баязьліва, ва ўсе бокі аглядаючыся, як бы чаго-то баючыся, у абарваным каптанчыку боса йдзе, як воск белая, дзяўчынка гадоў 8 — 10.

Сінія, баязьлівыя вочкі з якім-то страхам і неапісаным болем паглядаюць з боку ў бок, як бы чаго то асьцерагаючыся, баючыся, а дрыжачыя ручкі, жоўтыя як воск, асьцярожна й верна бяруць за клямку. Раздаецца скрып дзьвярэй, за ім паўторны, якія схавалі за сабою будучнасьць чалавецтва—дзіцё.

Я шарпнуў мацней лейцы й конь хуткім трухам пабег уперад. Мне хацелася хутчэй выехаць з вёскі, каб хоць на адну мінуту забыць увесь кашмар нашых дзён: босых, раздзетых, разутых, напаўгалодных, а часта зусім галодных, шасьці, сямі-гадавых жабракоў.

А думка за думкай, як хмары лятуць. „Няўжо ў гэных шасьці, сямі-гадовых жабракоў ня чалавечыя душы? Няужо яны будуць праз целы свой век гэтак марнавацца? Хто пакрыўдзіў іх: ці Бог, ці самі мы, ці хто яшчэ, што яны павінны з заздрасьцю глядзець на чарствую скарынку чорнага хлеба?... Няўжо гэта лішнія людзі, якім няма мейсца пад месяцам?“..

Конь падходзіць да прылеску—гэта былі могліцы. Душу гняце якісьці несьцярпімы цяжар. Смутна, маркотна; за грудзі — як каты скрабуць. Хочацца забыцца аба ўсім, хочацца перастаць думаць, жыць, бачыць вынікі XX в. і адайсьці ў вечнасьць, да дзядоў, прадзядоў, якія вечна будуць у гэным прылеску — могліцах.

З гэнага раздумья вывеў мяне голас, які данёсся да маіх вушэй, Гэта плакала сірата па сваёй памёршай матцы. І эта быў плач, які рэдка можна пачуць, паняць, зразумець, перажыць...

„Матка мая ты радзімая, чаму-ж мяне ты ўрадзіла“..,

Так жалобна, жалобна няслося эха па шырокаму прастору палёў. Здавалася ў гэты час плакаў увесь сьвет, абняты неаб'ятным горам сіраты. Нема і глуха ўтарыла ёй эха, адно нічога не казала матка, якая моцна, моцна спала няабудным сном у сырой зямліцы.

Неба зацягнула палавымі хмарамі. Пачынаў крапіць дожджык.

Дзесьці далёка, далёка было чуць гук гармат. Там лілася ракою чалавечая кроў, дзе гінулі лепшыя сілы народу, разам з яго багацьцем, дабытым вякамі.

Там, дзе было чуць гук гармат з ранамі ў грудзёх, змагаліся з жыцьцём бацькі не аднаго дзіцяці. Ім не шкада было сябе, яны ня думалі аб сваіх апошніх хвілях жыцьця, яны думалі аб сіратах, якія застаюцца на ласцы лёсу.

Вечны пакой, мілыя брацьці! Вашы дзеці, вырашчаныя іменьнем Хрыста, ведаюць добра за што згінулі Вы. Ніколі, ніколі яны не забудуцца вашае бацькаўскае ласкі, якая будзе сымбалям помсты й барацьбы за пралітую вамі кроў!

**М. Балінскі.**

**В. Грывіч.**

# Мсьцівыя нябошчыкі.

(Усе правы аўтор пакідае за сабой).

Як міне Аспажа, жыта бывае ўжо пасеяна, ярына амаль што усюды ўжо бывае сьпелая. Праходзе яшчэ троха часу і яна ўжо ня толькі зжата, але і зьвезяна. Толькі дзе-нядзе павяўшае жоўтае каліўе бульбы, абскубанае жыв лай, з сумам якімсьці чакае „сваей пары“.

Аж праходзе і гэтая пара нераз у абразе дзіўна прыгожай васеньняй пагоды. Днём, у велічы і красе нізкага сонца, сіняе неба глыбока-далёка сьвеціць сваей чысьцінёй, якой ня муціць ані водная хмарка, ані водная пылінка. У слабым чуць — заўважным ветры дрыжаць жоўта-залатыя лісты дрэў, як струны гарфы чароўнай, вабючы і чаруючы кожнага, сваёй таёмнай, быццам, далёкі дзіўны сьпеў, гаворкай-музыкай. Час ад часу адзін за адным адрываюцца яны ад галінак дрэваў і, як птушкі незнаныя з казкі якойсь, кружучыся ў паветры лятуць у даль, бліжчучы і сьвецячы на сонцы сваім золатам. Павук, варажбіт пагоды і прыяцель яе, праз іржышчы—балоты, дрэвы і кусты вэлянам дзіўным далёка — шырока, як каралеўну якуюсь к вянцу, прыбраў нашую зямельку, без канца ў даўжыню, без граніц у шырыню; і дарма-б ты ехаў-бег, ці ляцеў хоць і птушкай-арлом шукаць пачатку ці канца яго: згінуў ён там дзе гіне сонца ў начы, а пачаўся дзе раніцай узойдзе яно. У высокай лазуры глыбокіх нябес істужкай доўгою нясуцца журавы і гусі кудысь на поўдзен, штось баючы нам і гутаручы з вышыні сваей недасяжнай і зьнікаюць з вачэй удалі. Там сям пад кустом ці мяжою шэры заяц надскочыць высока і кінецца ўперад; пасьля, усероўна якбы сам застыдаўшыся страху ці дуронства свайго, прысядзе на заднія лапкі, аглянецца кругом і, быццам няхочучы куляючыся з задніх лап на пярэднія, пойдзе на высокую зялёную рунь пакуль не натрапе там на стада „сяўцоў“. Лопаючы крыламі

сваімі падымаюцца яны ўгару тады, каб пераньсьціся кудысь далей, а заяц, быццам зьдзівіўшыся, што нерашкодзіў гэтым птушкам, скача ад гэтага мейсца ўжо ў іншы бок.

I ўзноў усё ціха кругом, узноў таёмная чар у лазурнай вышыне, у цемна-сінім высокім лесе, што цёмнай істужкай разаслаўся на краю кругазору.

А вечар як прыйдзе, як сонца зойдзе і ціхая поўная чару, з міліёнамі зорак ў небе прыйдзе ночка, як марозік чуць-чуць значна пачне сьціскаць зямлю, што можа ў сьвеце раўняцца да гэтай красы і што можа нат' падмяніць яе?!... Прыгожасьць яе нас галубіць, чаруець і вабіць кудысьці ў невядомую даль, суліць шчасьце і радасьць у доўгім жыцьці.

А калі часамі завые і сярдзіты вецер, неба пакрыецца цёмнымі хмарамі, з якіх пачне пырскаць сьцюдзёны дробны дожджык і тады гэта пара ня траце сваей таямнічай прыгожасьці. Поўная страхаў усякіх і зданьняў, яна, аднак, міла нашаму люду, нашай моладзі. Незьлічанымі казкамі і легэндамі акружыў ён яе з усіх бакоў. I ў гэтых казках і легэндах скачуць розныя нячысьцікі, устаюць з сваіх цёмных магіл нябошчыкі, носяцца на памёлах і качэргах ведзьмы, сьвішчуць зьмеі—грашаносы, бегаюць і выюць ваўкалакі, сьняцца і здаюцца скарбы незлічоныя.

Хто іх складае гэтыя легэнды і казкі, адкуль і хто іх прыносе народу?—хто-ж зможа сказаць? Аднак як-жа мілы павінны быць народу яны, калі ў гушчы сваей хавае ён і беражэ іх соткі, а мо і тысячы гадоў без ніякіх пісаных кніг, музэяў і гмахаў вялікіх?!... Ці ёсьць у іх праўда?...

I.

У Лявона сягоньня вялікі і гучны дзень. Ён жэніць сына свайго адзінака, высокага, стройнага, адна кроў з малаком, дзяцюка Бладыся. У высокай, вялікай на два канцы хаце поўна гасьцей і тых, каторых Лявон запрасіў, і што прыехалі з маладой нявесткай яго і тых, што нашым звычаем старадаўнім прыйшлі паглядзець на вясельле, паскакаць і павесяліцца пры здарэньні.

Лявон знае сабе цану, знае што ён гаспадар, у якога яшчэ „аруд повен жыта“, ў хлеве не адзін яшчэ парсюк, не апошняя авечка, цялё і карова, а ў полі дзьве валокі добрай ворнай зямлі дый кусок сенажаці. I ён сьмела, выпіваючы чарку да суседа свайго, крычыць на гасьцей.

„Гуляйце дзеці — ёсьць яшчэ жыта ў клеці!“...

I „дзеці“ гуляюць: у абедзьвюх хатах пад чыстымі белымі як сьнег абрусамі доўгімі сьцягамі сталы аж гнуцца пад усякай ядой і стравай. Усё, што магла даць наша старонка, апрача птушынага малака, стаяла радамі на сталах кругом. Гаспадар з гаспадыняй пачарзе абходзяць усіх, усіх просяць і ўсіх прынукаюць, каб елі, пілі і весяліліся і ў іхняй хаце былі як у дома ў сябе.

А каму месца не хапіла ўжо за сталом, хто спазьніўся прыйсьці перш, ці ня меў адвагі сядаць за стол, таму гарэлку і закуску давалі на хаце, бо Лявон не хацеў, каб на вясельлі сына яго адзінака, хтосьці вышаў з яго хаты не частаваны, або не вясёлы.

Усе пілі, елі і весяліліся, а каб балей было месца дзеля скокаў, яшчэ загадзьзя загадаў Лявон вычысьціць вялікую клець і наняў асобных музыкантаў з цымбаламі, іскрыпкаю і дудою. Там цяпер скокі у-ва ўсей сваей гарачыні і красе. Дудар ёмка і смагла выцінае лявоніху, маладыя ногі яе вытупаваюць, а дзяўчаты сьмялейшыя і падпеіваюць. Усім весяла — усе здаволяны: дзяцюкі аблюбоўваюць дзяўчат сабе, дзяўчаты падбіраюць хлапцоў, у ўсіх іскруцца вочы агнём, кіпіць—і пеніцца кроў гарачым руччом.

А ў лепшай хаце, што была ад вуліцы, дзе сабраліся за поўнымі сталамі ўсе прошаныя госьці і сваты, рэжыць другі дудар. І там таксама наняты адумыслова цымбалісты ёмка памагае скрыпцы. Тут ужо ўсе даўно напіліся і наеліся, але гаспадар і слухаць ня хочэ, каб яны вылазілі з-за стала. А госьць-жа нявольнік—гаспадара мусіць слухаць.

І госьці слухаюць старога Лявона. З вясёлымі і разпаляными ад выпітых напояў вачыма і тварамі, сядзяць яны за сталамі, баючы сабе байкі старадаўныя, хвалючыся перажытым відзяным і чутым. Час ад часу якаясь вясёлая жанчына пачне песьню, яе падхопяць іншыя і яна ліецца бурна, ня стройна, часамі можа дзіка, але заразам дзіўна прыгожа, нязьмерна глыбока, поўная нязьлічоных скарбаў красы і багацьця, як дзікая пушча лясная, да якой яшчэ ніразу не дакрануўся чалавек, з сваей усе-ніштожучай сякерай. І ўсе, як зачарованныя слухаюць гэтай песьні, ловюць кожнае слова і кожны гук: яна міла і свойска ім, бо гэта іх родная. Пад гукі яе яны радзіліся, з гукамі яе гадаваліся, а, як лягуць у думаўіну вузкую, рэха яе будзе іх прысыпаць.

Вякі праходзяць, забываецца ўсё, што калісьці было, у ніштo разлятаюцца творы рук людзкіх, але песьня жыве, песьня звонка гудзе над зямлёю, поіць і жывіць з багатых нязьлічаных скарбаў сваіх, усіх тых, хто любіць яе, хто яе не чураецца і лічыць сваей.

Зморацца-ж жонкі ў песьні прыгожай—узноў гаворкі ідуць—аб жыцьці і здарэньнях, аб страхах, ваўкалаках, нябошчыках і благіх чараўніках.

Беларускі народ нябошчыкаў шануе, а магільнік для яго сьвятое месца. Туды без патрэбы хадзіць і днём навет ня варта. Калі ня хочаш каб мерцьвяцы табе мсьціліся, на магілках браць штось небудзь не павінен.

„А крый Божа цябе чалавеча“, кажа народная вера, „ісьці туды ўначы. Мерцьвяцы цябе туды не дапусьцяць, а калі й дапусьцяць, то ўсяроўна жывога назад не выпусьцяць. І неадзін ужо сьмяляга, што адважыўся туды заглянуць ноччу, парушыць спакой памёршых, зламыў без пары ў думавіну сваю галаву“.

Прыкладаў на гэта з усіх прысутных на вясельлі найбалей знаў

старшы сват маладухі Язэп, які слыў круг кругом за чалавека разумнага і бывалага. А розумам сваім ён любіў падзяліцца, што знаў сам, другому тое пабаіць не лянаваўся.

І цяпер, як сьціхла песьня на канцы стала, ён седзячы накуце баіў нейкі прыклад на гэта, усіх упэўніваючы, што сам быў сьведкаю гэтага здарэньня.

— „Але-ж гэта быць ня можа", перабіў яго малады прыгожы дзяцюк Якуб, родны брат маладой.

— „Як-то быць ня можа?" ядказаў яму на гэта Язэп, „калі-ж я сам гэта бачыў".

— „Бачыў дзяцька ці ня бачыў, мне гэта ўсяроўна, але я гэтаму не паверу. У часе Японскай вайны, калі мы стаялі ў Манжурыі мне ніраз прыходзілася ноччу стаяць на варце на кітайскіх магілках і нічагусенькі ніколі не здарылася".

— „Не здарылася, бо ты там стаяў з мусу і напэўна нічагусенькі на магілках не чапаў—а тады гэта сусім іншая справа".

Якуба аднак гэта не пераконывала. Ён усероўна ня верыў, што ўночы на магілкі хадзіць і там штосьці браць ня можна. Ён у часе той-жа Японскай вайны няраз уночы развarачываў думавіны кітайскіх нябошчыкаў і дошкі замест дроў паліў на агні, бо дроў небыло дзе дастаць і за грошы. Аднак з ім ніколі нічагусянькі такога не здарылася.

— „Дык ты-б можа і тут схадзіў-бы ўначы на магілкі?" спытаўся яго раззлаваны Язэп.

— „А чаму-ж не" — адказаў яму сьмела той. „Нават калі хочаце, то у знак таго, што я там быў, вам штось адтуль прынясу".

Язэп раззлаваўся.

— „Ня сходзіш!..." крычаў ён злосна.

— „Схаджу".

— „Давай у заклад"

— „Магу і ў заклад ісьці, што схаджу".

— „Добра. Аб што?"

— „Аб што, дзядзька хоча".

Перш усе сачылі за споркай, чакаючы хто каго ў ёй перaможа. Але цяпэр, калі спорка раптам так крута і скора пачала падходзіць аж да закладу, многа хто ўжо і спужаўся за яе добры канец. Бабы пачалі з перапугу крычаць і ламаць рукі, а некаторыя, нават, і галасіць. Разумнейшыя мужчыны ўгаварывалі, каб у заклад не браліся. Але ні тое ні другое не памагала: як Язэп, так і Якуб не хацелі астацца манюкамі і палахлівымі, адзін аднаму не ўступалі і лезьлі ў заклад. З гэтай іхняй упартасьцю ня было ніякай рады. Найшліся і такія, што ахвотна чакалі закладу, а нават і памагалі драчуном. Рукі іх скора былі пабіты і Якуб, пад страхам, што прайграе дзьве бутэлькі гарэлкі, выляз з за стала і пачаў апранацца. К' яму кінулася

сястра маладуха, з сьлязамі на вочах, умаўляючы не хадзіць на магілкі. Але ані яна, ані стары Лявон з Лявоніхай, ні Бладысь яго ўстрымаць ужо не маглі.

— „Рыхтуй, дзядзька, гарэлку — прынясу вам усім зараз доказ, што быў на магілках!“... крыкнуў ён, надзяючы шапку і выбег з хаты.

(Працяг будзе.)

# ШКАДА.

Шкада мне тых, што не спачынуць сяньня... тых чые думкі спавіла чорная ноч болю... тых, чые вочы зьбялелі ў муках сэрц... тых, чыя душа забіта зьдзекам ворагаў... тых, каторых праўды сьвет паняць ня можэ.

— Шкада мне тых, што па цярністых пуцінах жыцьця ў адзіноцтве йдуць.

Нясуць поўнымі жменямі цудоўныя дары Праўды Дабра і духовай Пекнаты, але-ж ніхто да іх не працягне рукі, ніхто іх не бярэ...

І далей ідуць адзінокія з душамі атручанымі жалям і крыўдай...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але-ж і тых шкада, чые вочы не бачаць справядлівасьці...

Чые сэрцы акамянелі ў злосьці...

Чые душы спавітыя цемраю крыўды людзкой нячулыя на сьвятло праўды...

Шкады тых, што раняць людзкія пачуцьці, топчуць іх і панявяраюць...

І тых шкада, чые нізкія шэрыя інстынкты не маюць адвагі бараніць таго, што яснае, і разводзяць цемру зла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Шкады цябе ты род людзкі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Род ахвяр і забойцаў...

З. В.

# МЫСЬЛІ.

Паўпадалі з дрэваў жоўтыя лісьця... залацістым дыванам разаслаліся па зямлі.

Ляжаць спакойна.

Скуль ня ўзяўся, наляцеў лёганькі вецярок; ускалыхнуў, заварушыў іх; пачаў кружыць, уверх падкідаць памаленьку, забаўляючыся... пасьля крыху мацней ды мацней.., наканец, сабраў усю сваю сілу:

ухапіў цэлую хмару жоўтых лісточкаў, закруціў, пагнаў высока, гэй!, аж пад неба... кінуў аб зямлю... зноў пагнаў далей з енкам... сьвістам... стогнам...

Ляцяць лісьця... ляцяць цэлым курэвам... удэрацца адзін аб аднаго і ляцяць... ляцяць далей...

Німа ім спакою... німа ім супачынку...

Бедныя лісьця!...

---

Так і мае мысьлі... Снуюць у галаве сонна, ляніва... можна падумаць, што сьпяць. Наляціць жыцьцёвы вецярок, ускалыхне іх: заварушацца хутчэй...

Раптам ад аднаго мацнейшага парыву падымуцца ўсе разам... удэрацца адна аб адну — разыйдуцца... закруцяцца хутка, хутка... куравам пяску... мяцеліцаю сьнегу...

У галаве ім цесна... хочуць на волю... З шалёнай сілай б'юцца аб сьценкі галавы, прычыняючы боль страшэнны..., сьлёзы ад яго рэчкай льюцца... галава трашчыць...

Сьціхніце, мысьлі мае... сьціхніце... дайце спачыць... **З. В.**

# ШЧАСЬЦЕ.

Шчасьце, як сонца: маленькая хмарка,
Пройдзе па небе, вышой, сярод дня, —
Сонца ўжо сьвеціць так тускла, няярка,
Момант—і сонца няма,
Шчасьце, як вішняў вясеньнія краскі:
Вецяр павее, заплача вясня, —
Зсыплюцца сьнегам на дол яны гразкі,
Момант—і краскаў няма.
Шчасьце як сьветлыя, ясныя думы:
Рэзкае слова, увага адна, —
Ужо абыймаюць душу маю сумы.
Момант—і думкаў няма.

* * *

Мая душа аж да краёў паўна
Прыгожай, сьветлай нейкай сілы
І ўсё здаецца ясным, мілым:
І неба сіняе, і хвалі тумана
Над местам рэдкія... і залатыя клёны
І стромкіх тонкіх хвой убор цёмна-зялёны.
Здаецца, шчасьце гдзесь каля мяне, так блізка.
Здаецца я магу ўзяць яго рукай
А не магу... Маўляў як над ракой
Схіляюцца кусты вярбіны нізка, нізка.
А ўсё ня здолеюць напіцца тэй вады,
Што вабіць бедных іх і тыдні, і гады.

**Н. Кушэль-Арсеньева.**

# ТРЫ БРАТЫ.

(Народнае апавяданьне).

I.

Тры браты канёў сядлаюць
І бацькоў перапрашаюць.
Прад абразам на каленях
Просяць іх благаслаўленьня.
Старшы брат быў паляўнічы,
Што ў бары дзічыну ліча,
І сярэдні брат—араты,
Што пільнуе поля й хаты,
І малодшы брат—паэта,
Закаханы ў гожасьць сьвету,—
Праз бары, яры, затокі
Едуць сяньня ў сьвет шырокі
Па прыгожую дзяўчыны,
Жонку, любку, гаспадыню.
Тры браты, дубы у полі,
Галавой сягаюць столі,
Як асілкі маюць грудзі,
Й не жанаты, кепска будзе!
Час даўно ўжо, што й казаці,
Мець бацьком нявестку ў хаці;
Пакуль з жыцьцём разьвітацца,
Унукаў хочацца даждацца.
У дзень прыгожы, яснавокі
Едуць брацьці ў пуць далёкі.
За сялібай, над ракою
Лёс кідаюць, хто кудою?
Старшы брат зьвяртае ўправа,
Праз чароты, ціну става
У бор кіруецца, што з хаты
Чуць відаць як пас зубчаты.
Срэдні, з песьняй удалою
Едзе проста прад сабою,
Едзе ў даль, дзе каласіцца
Мора срэбнае пшаніцы.
Младшы—ўзяць улева хоча,
Бо там шчасьце лёс прароча,
Дзе ў вадзе цьвітуць лі-
(лейкі,
Божы кветкі—самасейкі,
Дзе ў бязмежнасьць вабяць
(далі,
Дзе так ясны сонца хвалі!
Едуць, едуць, ад'яжджаюць,
Чуць відаць, зьнікаюць, таюць...
Толькі пыл яшчэ клубіцца,
Ды калышацца травіца
На пяшчыстай на сьцежынцы,
Каля бацькава дзядзінца.

II.

Уецца вузкая дарога
Каля лесу ля густога,
То крутнецца у лагчыну,
То завернецца ў гушчыну,
Абыходзіць ёлак сплёты,
Праз дрыгву йдзе, праз балоты.

Едзе старшы брат вясёла.
Бор шуміць, гудзіць наўкола,
Сіні цень яго хавае.
Сонца косы раскідае,
Шэпчуць хвойкі маладыя
Байкі, казкі залатыя,
Павявае пах маліны,
Успамінае чар дзяўчыны.

Уецца вузкая дарога
У моры жыта залатога.
То—управа крутанецца,
То—улева павярнецца,
Абыходзіць сенажаці,
Йдзе праз грэблі—і праз гаці.
Едзе срэдні брат ахвоча,
Едзе ў дзень і едзе ўночы,
Ясна сонца яго грэе,
Прахалодай вецер вее,
Жыта шэпчэ яму казкі,
Навяваюць думкі краскі,
Чырванеючы ў травіцы,
Аб дзяўчыне—чараўніцы.

Уецца вузкая дарога,
Каля возера ціхога,
Абыходзіць мора кветак,
Стужкай ўецца між палетак
У даль нязнаную, дзе горы
У неба гінуць сінім моры.
Едзе младшы брат, сьпявае,
Песьняй Божы сьвет вітае.

Яму шле праменьні сонца,
Вабіць цень густа ўстаронцы,
Неба, сонца, хмаркі, дрэвы,
Пчолаў гуд і птушкаў сьпевы,
Пах салодкі канюшыны
Успамінаюць аб дзяўчыне...

III.

У чыстым полі пры каліне.
Тры крыжуюцца дарогі.
На растані—крыж убогі,
Студня, плот, садок і хатка,
А у хаце дзеўчэ з маткай.
А й харошая-ж дзяўчына
Сінявокая Галіна!
Яе вочы—дзьве пэрлінкі,
Як дзьве раньнія расінкі,
Яе косы—жыта хвалі,
Што на сонцы дасьпявалі,
Яе вусны, як маліны.
Стан як стромкі ствол асіны.
Голас сьпеўны, пераліўны
Будзіць сум і вабіць дзіўна.

Старшы брат мінаў ураньні
Крыж і хатку на растані.
Да крыніцы, дзе каліна
Па ваду ішла галіна.
Ишла, ішла, яго спаткала,
Усьміхнулася, і стала...
Старшы брат вачэй ня зводзіць,
Кроў бардзей у жылах ходзіць,
Сэрца б'е, бы птушка ў клуні
Й, сьмяючыся да красуні,
Ён назад каня вяртае,
Бо знайшоў, чаго шукае:
Сватам верне да дзяўчыны
У якой вусны як маліны.

Срэдні брат быў у палудні
Каля хаткі, каля студні.
З вязкай сьвежай канюшыны
З поля, з працы йшла дзяўчына.
Йшла, ішла яго мінула,
Абярнулася й зірнула..
Хлопец стаў. З чароўнай сілай
Сэрца шчырае забіла.
Штосьці сэрца просіць, хоча,
Й на дзяўчыну ўзьвеўшы вочы,
Ён назад каня вяртае,
Бо знайшоў, чаго шукае:
Сватам вернецца да Галі.
У якой косы—жыта хвалі.
Малодшы брат быў на заходзе
Каля хаткі пры гародзе.
З сенажаці, з лугавіны
Двух кароў гнала дзяўчына.
Йшла, ішла, яго сустрэла
І пагляд спаткала сьмела.
Малодшы брат уздрыгануўся,
Да дзяўчыны ўвесь рвануўся.
Мары, сны адбіліся сэрца
На твары, як на люстэрцы.
Увесь ня свой—назад вяртае
Бо ўжо сон—на яве мае:
Сватам верне да Галінкі
У якой вочы як пэрлінкі.

---

На дзядзінец уз'яжджаюць
Тры браты, бацькоў вітаюць
Просяць іх благаслаўляці,
На вясельле людцаў зваці.
Тры банкеты, тры вясельлі
Справіць бацька да нядзелі;
Тры красуні, тры дзяўчыны
Увойдуць заўтра да радзіны.

IV.

Яшчэ сонца ня вітае
З-за кароны цёмнай гаю,
Яшчэ ў лесе, у гушчары
Тумана клубяцца хмары,
А ўжо перад старшым братам,
Салавейка ляціць сватам,
Ляціць сватам да Галіны,
У якой губкі, як каліны.

Яшчэ сонца ня відаці
Над мурогам сенажаці,
Яшчэ кропелькі расіцы
Тускла зьзяюць на пшаніцы,
А ўжо перад срэднім братам
Мал' жаўронак ляціць сватам.
Ляціць сватам ён да Галі.
У якой косы, жыта хвалі

Яшчэ сонца не сьмяецца,
Блеск з нябёсаў ня ліецца,
Яшчэ толькі гаснуць зоры,
Сьпяць у лесе птушкаў хоры.

А ўжо прад малодшым братам
Салавейка ляціць сватам.
Ляціць сватам да Галінкі
У якой вочы—дзьве расінкі.

Старшы брат выкуп багаты
За любую ўносіць у хату:
Мнагацэнных кунаў скуры.
Гарнастайкі, собаль буры,
Мёд пахучы, бурштыновы.
Бору, соснаў пах здаровы.
Срэдні брат ў хату зносіць
Выкуп свой, прыняці просіць,
Раскладае зьвіткі лёну,
Жыта з роднага загону,
Воўну белую, пшаніцу,—
За дзяўчыну—чараўніцу.
Младшы брат з каня зьлязае
Идзе ў хату і выймае
Златалітыя пярсьцёнкі,
Што з чужой прывёз старонкі
І пытаецца як ласкі
Аб дзяўчыне сваёй казкі.

---

Так у хаце пры растані
Брацьці зьехаліся ўраньні.
На сябе яны зірнулі,
Дзіўна твары адвярнулі,
Усьміхнуліся панура...
Ой, там будзе, будзе бура,
Бо няма вастрэйшай звадкі,
Як з-за дзеўчыны, з-за гладкай!

V.

Сумна, сумна як каліна,
У восень дождж з галін страсае.
Сумна, сумна як дзяўчына
Дробны сьлёзы вылівае:
— „Ой, чаму, чаму я, маці,

Сьлёзы мушу праліваці!
Каб была я сонцам ясным,
Каб была я ветрам буйным,
Каб была імглою раньняй,
Каб была крынічкай тою
З жыватварнаю вадою,—
Я бы любых абагрэла,
Абсушыла-б суха цела,
Абкінула-б імглой белай,
Аджывіла-б думкай сьмелай!“

Так заводзіць прычытаньні
Дзеўча ў хатцы на растані.
А ў полі вецер вые,
Дробны дождж над полем сее,
Сьпяць браты у сьне глыбокім
Пры узгорку пры высокім,
Іх і дождж сьцюдзёны мочыць,
Ім і сонца паліць вочы,
Іх і вецяр буйны сушыць,
І каршун парой варушыць.
Груганьнё кругом лятае.
На грудзёх у іх сядае,
У вочы дзюбай заглядае...
Што-ж так моцна там паснулі,
Ці-ж і граканьня ня чулі?
Ці-ж іх сонца ня збудзіла,
І улева не змачыла?

Ой, дарма чакаеш, бацька,
Трох сыночкаў да нядзелі
На гучное на вясельле!
Вазьмі ў жменю лепш пшаніцы.
Пасей яе на вадзіцы:
Як пшаніцу пазжынаеш,
Тады дзетак прычакаеш:
Бо навекі ўжо, відаці,
З за харошага дзяўчаці
Палаглі ў крывавай бойцы
Тры браты, тры братабойцы!

**Н. Кушэль-Арсеньева.**

# ПЯЛЬГРЫМ.

Кароль—пяльгрым—у Зямлю Сьвятую
Адноўчы вышаў собскімі нагамі.
Калі брыў праз пустыню злую
Амаль ня-згінуў пад пяскамі:
Слабы, галодны і абдзёрты
Зладзеямі ў цяжкой дарозе,
Стаў у Сахары на кій сьпёрты
І крыкнуў к небу: „О парозе!
Хрыста сьвятыні. Я магутны
Кароль так слаўны, горды й сільны
Ці-ж я загіну тут пакутны,
Ці-ж пясок будзе схоў магільны?
Без залатой труны й малітвы,
Я ўладар і цар прад днямі!“
Хляснуў са злосьці ў лоб рукамі,
І пайшоў дальш, як у хваль бітвы
Успамінам прошласьці сагрэты
Кароль дапяў сьвятое мэты.

**Фр. Грышкевіч.**

# Народная песьня.

Ой, цераз бор дарожанька ляжыць, тудымай шла сіротанька.
Сустрэла старога дзеда, старога дзеда нядужага.
„Куды йдзеш сіротанька, куды йдзеш маленькая?“
„Іду дзедку маткі шукаць“.
„Ой, сьвет пройдзеш, маткі ня нойдзеш“.
„У чыстым поле камень ляжыць—на камене касьцёл стаіць,
„А ў касьцеле трунка стаіць, а ў трунцы матка ляжыць“.
„Устань матка ўмый мяне, устань матка вычаш мяне,
устань матка кашулю дай“.
„Дзяткі-ж мае міленькія! Ой ня ўстану, ой ня ўстану!
„Есьць у цябе другая маці“,
„Матка-ж моя міленькая! то ні маці, да мачаха.
„Яна, як мые то ў шчочкі б'е, а як чэша—за коскі рве.
кашулю дае—праклінае—
„Каб ты яе насіла, больш другое не прасіла“.

Запісаў **М. Балінскі.**

М. Косаў на Палесі.
Горадзяншчына.

# Польскае студэнства на У. С. Б. у Вільні.

Склад сіл у грамадзянстве, яго партыйны воблік адбіваецца на партыйна-ідэолёгічнай групіроўцы студэнцкае моладзі. Адтуль яна чэрпае свае ідэолёгічнае абаснаваньне, маральнае і матэрыяльнае падтрыманьне.

Розніца, аднак, ад старэйшага пакаленьня тым, што вызываець адвечны пункт непаразуменьня паміж старым і новым пакаленьнем. Гэта аб'ясьняецца маладасьцяй, якая балей чуткая на вонкавыя праявы жыцьця.

Перад вайною польскае грамадзянства ставіла сабе за мэту — здабыцьцё Незалежнасьці.

Тагачаснае польскае студэнства зложыла шмат ахвяр у барадзьбе за Незалежнасьць, бо яно перад усімі захоплівалася вялікай ідэяй будовы Незалежнае Польскае Дзяржавы.

Да 1914 г., да самае вайны, пераважываючы уплыў сярод польскага студэнцтва па ліку мелі ідэі паступовыя і сацыяльнай справядлівасьці, якія павінны былі зьдзейсьніцца пры будове собскага гаспадарства.

Таму побач з групай эндэцкай студэнтаў польскіх, відзім вялізарныя уплывы групы паступоўцаў. Паступоўцы дужа прыхільна адносіліся да беларусаў і, падходзячы да нас, стаялі, як роўныя з роўнымі.

Эндэцкія арганізацыі студэнства польскага, як і сяньня беларусаў і украінцаў ня прыймалі да ведама.

---

Саўсім другі уклад сіл і ідэолёгічных уплываў бачым цяпер. Здабыта Незалежнасьць. Адпалі тыя прызывы, што горача прамаўлялі да маладых душ. Прывыкшы да нэгатыўнага становішча ў гаспадарсьцьвенным пытаньні, якое да вайны для польскае моладзі было чужым, яна і цяпер затрымалася, паводле нас, на тым-жа грунце нэгацыі да патрэбаў і заданьняў дзяржавы. Бо большасьць польскага студэнцтва абасновываець сваю ідэолёгію на чыста нэгатыўных клічох, кінутых ваінствуючым і шовіністычным нацыяналізмам. Не прызнаем, абараняем, асымілюем, сьцеражэм, вось што найбольш захоплівае польскія студэнскія масы. На грунце Віленскага Унівэрсытэту ў сучасны момант даюцца заўважыць гэткія ідэолёгічныя і партыйныя групіроўкі.

На самым правым канцы стаіць г. зв. „Młodzież Wszechpolska“ — (Усёпалякі). Гэта хвальварак эндэцыі і прытым самага крайняга крыла, пад уплывам і падтрыманьнем якога знаходзіцца. На грунце студэнцкага жыцьця яўляецца гэрольдам „баевога“ прызыву:—проч з жыдамі, дамагаецца ўвядзеньня numerus clausus і поўнага выдаленьня жыдоў ад усякага сутыку з польскім грамадзянствам. Беларусаў стараецца ня відзець, бачучы тут такую ці іншую „інтрыгу“. Калі-ж жыцьцё самае змушае іх стыкацца з рэальным фактам істнаваньня гэнага народу, моладзь „Wszechpolska“ мае мэтай асымілявац іх. У гэтай асы-

міляцыі дапушчае ўсё, каб толькі быў асягнуты скутак. Уплывамі сваймі абыймае шмат студэнтаў, займаючы другое месца. Ці ўнутры сваей арганізацыі вядзе грамадзянска-культурную работу, казаці не бярэмся.

(Працяг будзе).

---

# ХРОНІКА.

— Бібліатэка Бел. Студ. Саюзу адчыняна што чацьвер ад 4 да 6. Віленская 12—6.

— 7. II. б. г. мае адбыцца вечарына ў залі Віл. Бел. Гімназіі, ладжаная вучнямі гэтае-ж гімназіі: Пастаўлена будзе „Пінская Шляхта“ Д. Марцінкевіча.

Трэба з жалем адзначыць, што гэта, наагул, толькі другая беларуская вечарына ў гэтым школьным годзе ў Вільні. Бел. Драм. Майстроўня, якая ў мінулым годзе працавала, сёлета ніяк не праяўляе свае дзейнасьці.

А патрэба белурускага тэатру ў Вільні вельмі адчуваецца. Мы горача вітаем думку п. Дырэктара Віл. Бел. Гімназіі, — каб ладзіць спэктаклі бяз танцаў і старацца ставіць рэчы паважныя, а така-ж новыя мала знаёмыя віленскаму грамадзянству. Уступ на спэктакль павінен быць вольны для ўсіх, каб зазнаёміць віленскае грамадзянства з беларускаю сцэнаю.

— 25. I. б. г. памёрла ў Вільні Ксенія Красінская, адна з шчырых і энэргічных працоўніц Бел. Драм. Майстроўні.

— Мініст. Асьв. дазволіла вучням—Белар. на матуральных экзам. адказываць пабеларуску апрача полёністікі, гісторыі і географіі Польшчы.

— Урад мае адчыніць бел. вуч. курсы ў Кракаае на 40 слух. і ў Вільні на 40 слух. Лік вельмі нязначны. Ц. Б. Шк. Рада робіць захады каб адчыніць бел. вуч. курсы ў Вільні на 300 слух.

— У Вільні выходзяць наступныя белар. часопісі: „Белар. Доля“, „Студ. Думка“, „Крыніца“. „Авадзень“, а така-ж польская газэта ў беларускай мове „Грамадзкі Голас“; у Варшаві выходзіць журн. „Праваслаўны Беларус“.

# З заграніцы.

— Беларуская кафэдра ў **Празе**. Украінскі Пэдагагічны Інстытут які абслугоўвае і беларускае Студэнства пастанавіў стварыць катэдру беларусазнаўства.

Мы вельмі рады, што браты нашы на чужыне, дзякуючы братнім народам Чэхам і Украінцам будуць мець магчымасьць атрымаць вышэйшую веду ў беларусазнаўстве.

Мы жа на бацькаўшчыне ў Вільні катэдры беларусазнаўства ня маем!

— У Менску студ.-беларусы выдалі часопісь „Белорусскій Студент"—парасейску! Шчыра пажадаем братом менскім наступныя № № выдаваць ужо ў матчынай мове—беларускай.

— Студ. беларусы ў Маскве дужа моцна сарганізавана нацыянальна. Выдаюць пабеларуску часопісь „Змаганьне".

— У Дзьвінску вучыцялі і вучні Бел. Дзярж. Гім. стварылі даволі паважны асяродак мастацкае працы—аматорскі тэатр і хор. А віленскія Беларусы дагэтуль на гэта не здабыліся.

## Да студэнтау-беларусау.

Дарагія Калегі! Часта прыходзіцца спатыкаць студ. - беларусаў, якія баяцца прызнавацца свае беларускасьці, або прызнаўшыся баяцца запісывацца і працаваць у нашай арганізацыі.

І, як нас інфармуюць, баяцца таму, што застрашаны студ.-палякамі, што, быццам той, хто запішацца ў нашую арганізацыю будзе цярпець рэпрэсыі з боку п. п. прафэсароў і хутка будзе выкінуты з Унівэрсытэту.

Гэтая брудная агітацыя з боку горшае часткі польскага студэнства зьяўляецца зусім бяз падстаўнаю. Мы з асабістага досьледу некалькі-гадовае працы ў нашай арганізацыі, сьцьвержаем, што ані нас ня выкідаюць з Унівэрсытэту, ані ня бачым ніякіх рэпрэсыяў з боку п. п. прафэсароў. Падобнае-ж пасыўнае вашае захаваньне ёсьць толькі доказам палітычнае невыхаваннасьці.

Чым мацнеўшую мы створым арганізацыю, тым больш шансаў, што лепшая будучына нашага народу за намі! І, Гэта нашыя ворагі добра ведаюць!

Дык рэгіструйцеся ў сэкрэтар. Бел. Студ. Саюзу, у аўторкі, чацьверы і суботы ад 4—6 г. п. п. (Віленская 12—6)!

---

**Грамадзяне!** Хто атрымаў першы пробны нумар „Студ. Думкі" просім прысылаць падпісныя грошы. Падтрымайце ў трудны матэрыяльны час новую беларускую часопісь!

Бо чым болей выдаецца і распаўсюджываецца друкаванае слова, тым бліжэй да нас счасьлівая, сьветлая будучына! І гэта залежыць ад Вас!

---

Рэдакцыя просіць падпісчыкаў прысылаць рукапісы, пісаныя выразна і на адной толькі бачыне. Рукапісы не зварачываюцца.

---

Рэдактар-Выдавец: **Адольф Зянюк.**

# Абвестка.

## КОНКУРС.

Прэзыдыум Беларускага Сакала ў Празе аб'яўляе конкурс на мастацкае апрацаваньне малюнка Беларускае Сакольскае вопраткі і беларускага сакольскага нагруднага знака. Вопратка мусіць мець нацыянальны характэр—а таксама быць напаўвайсковай.

За лепшае выкананьне малюнка прэзыдыум будзе выдаваць прэміі — 1-ая у лічбе 200 чэскіх карон і 2-ая у лічбе 100 чэскіх карон.

Малюнкі мусяць прысылацца найпазьней 1 сакавіка 1925 г. ў канцэлярыю Беларускага Сакала у Československo. Zbraslav u Prahy, Vaclavová ul č. 92.